# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 19 (2213) 9 мая 1991 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.




## ЗНАКІ НАШАГА ЧАСУ

Пяцігоддзе чарнобыльскай трагедыі, што адзначалася сёлета, было для нас больш важным, чым І Мая, якое мы святкавалі ўслед за гэтым. Было яно б[illegible] значным і па форме, і па зместу. [illegible]ршамай прайшоў традыцыйна, амаль што звычайна, не пакінуўшы ніякага следу ў душы. Можа таму, што гэтае свята ўсё яшчэ не пазбаўлена казёншчыны, яно не кранае чалавечыя сэрцы.

Чарнобыльская ж журботная гадавіна адбілася ў сэрцы кожнага беларуса цяжкім і пакутлівым успамінам, а ў многіх — роспаччу, горкай безнадзейнасцю.

Гэтыя два здымкі зроблены ў адзін і той жа дзень — 26 красавіка 1991 года. Дзве падзеі аднаго дня ў Мінску. А 12-й гадзіне на рагу вуліц Прытыцкага і Глебкі адбылося асвячэнне храма ў гонар іконы Божай Маці "Усіх Смуткуючых Радасці", які паўстане на гэтым месцы ў памяць ахвяр Чарнобыля. Першага храма, які будзе збудаваны ў Беларусі за 73 гады Савецкай улады. Добры знак нашага часу, хаця для гэтага спатрэбіўся Чарнобыль — дасюль мы толькі апаганьвалі і разбуралі храмы.

Прыгадваюцца сл[illegible] ксяндза Уладзіслава, сказаныя ім падчас другой падзеі гэтага ж дня, якая адлюстравана на ніжнім здымку, — адкрыцці Знака памяці ахвярам Чарнобыля: "Не Бог паслаў на нас кару, яе прыгатавалі мы самі — сваімі рукамі. Сэрцы многіх з нас падобны сёння на той жа рэактар: выдзяляюць зарад злосці і нянавісці..."

Адкрыццё Знака адбылося вечарам, у другім канцы сталіцы, у зялёным масіве паміж вуліцамі Карастаянавай і Арлоўскага. Людзей ніхто не "арганізоўваў", ніхто не гаварыў казённых прамоў, як пры адкрыцці розных помнікаў па загаду зверху, якіх мы столькі наштампавалі. Людзі ішлі самі, з чыстым сэрцам і чыстымі думкамі. Можа, нарэшце, мы пакінем нешта сваё на Зямлі...

Фота С. КРЫЦКАГА.





*ЗВАРОТ*

## НАД БЕЗДАННЮ КАНФРАНТАЦЫІ

**Напярэдадні 1 Мая, дня яднання людзей працы, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР і Савет Міністраў рэспублікі выступілі са Зваротам да беларускага народа.**

Без умення і жадання слухаць адзін аднаго мы не зробім новага кроку наперад, гаворыцца ў Звароце. Мовай ультыматумаў сёння размаўляць немагчыма. Існуючыя праблемы вырашальныя толькі ў спакойнай, дзелавой абстаноўцы, цывілізаванымі метадамі.

Усе грамадзянскія рухі павінны праявіць узаемную цярпімасць, жаданне супрацоўнічаць. Самыя высакародныя мэты не апраўдаюць развал і хаос, калі яны надыдуць. Хочацца верыць, што нікому не ўдасца саштурхнуць у бездань канфрантацыі духоўна багаты беларускі народ, які валодае невычарпальнай энергіяй дабра і стварэння.

Цяжкі, бурны красавік 1991 года не выкрасліць з гісторыі Беларусі, як не выкрасліць і тое, што прымаюць Вярхоўны Савет і ўрад рэспублікі для аблягчэння жыцця людзей у цяжкі для ўсёй краіны час. Толькі пры поўнай падтрымцы і давер'і вярхоўнай заканадаўчай, а таксама выканаўчай улады ўсіх узроўняў, якую ажыццяўляюць вашы выбраннікі, мы зможам выйсці з крызісу.

*ЗАЯВА*

## ЗА "КРУГЛЫ СТОЛ"

"Мы ўпэўнены, што прынятыя Саўмінам рэспублікі меры дазволяць толькі часова прыпыніць зніжэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Узросшы дэфіцыт бюджэту непазбежна прывядзе да новага росту цэн. Без рэальных крокаў па змяненню палітычнай і эканамічнай сістэмы выхад грамадства з крызісу немагчымы. Менавіта таму палітычныя патрабаванні выходзяць на першы план".

Так сцвярджаецца ў заяве палітычных партый і рухаў Беларусі, апазіцыйных КПБ, з якой яны выступілі пасля забастовак у Мінску і рэспубліцы.

Ва ўзнікшай сітуацыі жорсткая пазіцыя Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, які адмовіўся склікаць пазачарговую сесію і разгледзець палітычныя патрабаванні, вядзе да ўзмацнення напружанасці ў грамадстве, лічаць аўтары заявы.

Для вываду рэспублікі з крызісу і мірнага мантажу таталітарнай сістэмы прапануецца адкладна правесці "круглы стол" паміж кіраўніцтвам рэспублікі і прадстаўнікамі стачкомаў, палітычных партый і рухаў.

*ГУМАНІТАРНАЯ ДАПАМОГА*



**Груз гуманітарнай дапамогі з Японіі перадалі Рэспубліканскаму дзіцячаму гематалагічнаму цэнтру члены дэлегацыі японскага фонду дапамогі пацярпеўшым ад выбуху Чарнобыля. Клініка атрымала партыю медыцынскага абсталявання і прэпаратаў для лячэння лейкеміі на суму 50 мільёнаў іен. Частка дабрачыннага грузу будзе адпраўлена ў Гомельскую дзіцячую абласную і Чачэрскую раённую бальніцы.**

**НА ЗДЫМКУ: прэзідэнт японскага фонду дапамогі пацярпеўшым ад выбуху Чарнобыля Кэідзі ААТОМА з адным з маленькіх пацыентаў Рэспубліканскага дзіцячага гематалагічнага цэнтра.**

*АПЫТАННЕ*

## КРЭДЫТ ДАВЕРУ

Апытанне, праведзенае ЦК КПБ, выявіла крайне негатыўныя адносіны людзей да рэформы цэн у цяперашнім яе выглядзе. Аб гэтым заявілі 88,3 працэнта апытаных. Толькі 5,3 працэнта падтрымліваюць рашэнне саюзнага ўрада па цэнах. У рэспубліцы істотна ўпала вера ў рынак. Адмоўныя адносіны да яго выказалі 39,3 працэнта, станоўчыя — 37,8.

На пытанне "Якія вашы адносіны да забастовак як спосабу вырашэння наяўных праблем?" 63,1 працэнта рэспандэнтаў адказалі, што адмоўныя, 24,2 — станоўчыя, 12,7 — цяжка было адказаць. Толькі 33 працэнты апытаных выказаліся за адстаўку беларускага ўрада, 33,9 — за роспуск Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 34,9 — за нечарговыя выбары ў беларускі парламент, 30,6 — за нацыяналізацыю ўласнасці грамадскіх арганізацый, 35,0 — за вывад партыйных камітэтаў за межы існуючых вытворчых структур.

Сацыялагічны аналіз паказвае, што, на думку большасці жыхароў рэспублікі, беларускія парламент і ўрад не вычарпалі крэдыт давер'я і не трэба перашкаджаць ім працаваць.

Рэспандэнтам было прапанавана ўказаць канкрэтныя меры, неабходныя для стабілізацыі абстаноўкі ў Беларусі. У многіх анкетах было адзначана, што ўсе праблемы неабходна вырашаць толькі канстытуцыйным шляхам, а не пры дапамозе забастовак, якія вядуць да далейшага пагаршэння эканамічнага становішча, зніжэння ўзроўню жыцця і падштурхоўваюць рэспубліку ў бездань.

*ВОСТРАЯ СІТУАЦЫЯ*



**Сапраўды ювелірнае майстэрства паказалі сапёры, якія прыбылі ў віцебскі мікрараён Поўдзень-6, каб абясшкодзіць небяспечную знаходку — нямецкую авіябомбу вагой 250 кілаграмаў. Вывозіць яе за горад піратэхнікі не асмеліліся: з'едзеная ржой грамадзіна магла рвануць ад лёгкага дакранання.**

**Каля трох тысяч жыхароў мікрараёна па загаду гарсавета часова пакінулі свае кватэры, папярэдне заклеіўшы вокны папяровымі палоскамі. Міліцыя сумесна з работнікамі домакіраўніцтва апячатала кватэры і пад'езды. Выставілі варту. Будаўнікі дапамаглі сапёрам накрыць авіябомбу слоем зямлі. І вось усе трывогі скончыліся. Магутны выбух толькі скалануў земляную "падушку". Наверх не прабіўся ніводзін асколак.**

**НА ЗДЫМКУ: небяспечная знаходка.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

● Распараджэннем Савета Міністраў СССР Гомельскай вобласці дазволена пакідаць у сябе 20 працэнтаў нафты, здабываемай тут, і скарыстоўваць яе паводле сваіх патрэб. Гэты крок расцэньваецца як добры жэст Прэзідэнта М. Гарбачова пасля яго наведання Беларусі.

● Створана Ліга жанчын Беларусі. На арганізацыйным з'ездзе, які прайшоў у Мінску, быў прыняты зварот да Вярхоўнага Савета БССР і штаба Беларускай ваеннай акругі. Галоўныя патрабаванні Лігі жанчын — беларускія хлопцы павінны служыць у Беларусі.

● Не адбыўся мітынг, які наважылася правесці Дэмакратычная партыя Беларусі ў Брэсце. Дазвол на мітынг улады горада далі, але людзі не сабраліся. А тэма, здаецца ж, была актуальнай: "Як нам жыць далей?"

● У Мінску створана маладзёжнае праваслаўнае брацтва ў імя іконы Мінскай Божай Маці. Яго члены — у асноўным добраахвотнікі — студэнты вышэйшых навучальных устаноў сталіцы. Яны падтрымліваюць парадак падчас богаслужэння, маюць намер займацца адбудовай цэркваў, аказваць матэрыяльную і маральную дапамогу тым, каму яна патрэбна.

● За мінулы год міліцыя Беларусі затрымала за бадзяжніцтва 1 182 чалавекі. Сярод тых, хто не мае пэўнага месца жыхарства, 1 000 чалавек раней асуджаныя. 25 з іх — асабліва небяспечныя рэцыдывісты, а 147 учынілі 205 злачынстваў.

● У маладых жахароў Віцебска Марыны і Андрэя Ляшчокаў нарадзіўся сын, якога шчаслівыя бацькі назвалі Арцёмам. Сапраўды, шчаслівыя, бо Андрэю год назад зрабілі аперацыю па перасадцы сэрца.

*АКТУАЛЬНЫ КАМЕНТАРЫЙ*

## ШТО НАС ВЫРАТУЕ?

Нават ва ўмовах цяперашняга жорсткага крызісу вытворчы патэнцыял Савецкага Саюза працягвае заставацца вялікім. Краіна захоўвае лідзіруючае становішча ў свеце па здабычы нафты, жалезнай руды, сталі і пракату, металарэзных станкоў і мноству іншых відаў прадукцыі. Другое-трэцяе месца ў свеце мы займаем па здабычы вугалю, вытворчасці электраэнергіі, многіх хімічных тавараў і г. д. Але структура вытворчасці аднабокая: гіпертрафіраваны сектар эканомікі, які выпускае сродкі вытворчасці, і адчайна малы і слабы сектар вытворчасці спажывецкіх тавараў. Менавіта таму наш узровень жыцця з'яўляецца адным з самых нізкіх у Еўропе.

У нас чалавек спажывае ў 2—2,5 раза менш, чым грамадзянін ЗША, мяса, фруктаў, алею і многіх іншых важнейшых прадуктаў. Істотна ніжэйшае спажыванне прамысловых тавараў (абутак, тканіны, трыкатаж, мэбля, халадзільнікі, пральныя машыны). Вытворчасць і выкарыстанне сучаснай бытавой электронікі ўвогуле знаходзіцца ў зародкавым стане.

Слабае развіццё спажывецкага сектара эканомікі прадвызначае і выключна нізкі ўзровень аплаты працы. Калі амаль ва ўсіх еўрапейскіх краінах доля заработнай платы ў нацыянальным даходзе складае 60—80 працэнтаў, то ў СССР — толькі 30—35 працэнтаў. Рэальная зарплата савецкага рабочага ў пяць-дзесяць разоў ніжэйшая за зарплату рабочага той жа кваліфікацыі ў заходніх прамыслова развітых краінах. Яшчэ больш (да 10—20 разоў) розніца ў аплаце працы інжынераў, урачоў, настаўнікаў і г. д. Але асабліва яна вялікая ў людзей творчых прафесій (журналісты, вучоныя, людзі мастацтва і да т. п.).

Доўгі час перавагай лічылася і абвяшчалася тое, што пры параўнаўча нізкай аплаце працы існавалі і вельмі нізкія і стабільныя цэны на спажывецкія тавары і паслугі. Сапраўды, кватэрная плата, напрыклад, не мянялася з 1928 года. Цэны на хлеб, макаронныя вырабы заставаліся нязменнымі з 1954 года. Мяса, малако, цукар, алей і г. д. да нядаўняга часу прадаваліся па тых жа цэнах, што былі ўстаноўлены яшчэ ў 1962 годзе. Фармальна раслі толькі цэны на прадметы раскошы (ювелірныя вырабы з каштоўных металаў і камянёў, натуральнае футра, аўтамабілі, рыбныя далікатэсы, алкагольныя напіткі і тытунёвыя вырабы).

Перавагу і выгаду для спажыўцоў нізкіх і нязменных цэн наўрад ці хто будзе аспрэчваць, калі б яны сапраўды былі рэальнасцю. На справе ж фактычныя цэны пакупак павышаліся штогод і ва ўсёўзрастаючым тэмпе. А з 2 красавіка яны павышаны ў цэнтралізаваным парадку адразу ў 2,5—3,5 і больш разоў. Цяпер для таго, каб купіць аднолькавую колькасць, напрыклад, бульбы, малака, рыбы, савецкаму чалавеку трэба адпрацаваць у пяць разоў больш часу, чым, напрыклад, амерыканцу; мяса, масла, апельсінаў — у 10—15 разоў; яек, рысу, цукру, куранят-бройлераў — у 25—30 разоў.

Ва ўсіх цывілізаваных краінах разлічваецца і заканадаўча ўстанаўліваецца пражытачны мінімум. У нас афіцыйна зацверджанага мінімальнага спажывецкага бюджэту да гэтага часу няма. А калі ўзяць тую лічбу, якую назваў нядаўна намеснік прэм'ер-міністра Шчарбакоў у якасці мінімальнай зарплаты (180 рублёў), то акажацца, што больш палавіны насельніцтва краіны пражывае за рысай беднасці.

І без таго вельмі нізкі ўзровень жыцця насельніцтва стаў яшчэ больш зніжацца ў апошнія гады. Характэрныя ў гэтых адносінах даныя па спажыванню харчовых тавараў у Маскве, якая на працягу дзесяцігоддзяў уяўлялася іншаземцам як вітрына сацыялістычнага "дабрабыту". Напрыклад, за апошнія 15 гадоў спажыванне хлебапрадуктаў тут знізілася на 23 працэнты, у тым ліку толькі за апошнія тры гады — на 7 працэнтаў; фруктаў і ягад адпаведна на 22 і 25 працэнтаў; малочных прадуктаў і масла — на 14 і 8 працэнтаў. Нават спажыванне самага таннага прадукту харчавання — бульбы скарацілася на 34 і 13 працэнтаў. Цяпер бульбу ўжо нельга лічыць найбольш танным прадуктам. Цэны на яе павялічыліся ў некалькі разоў.

Якое ж выйсце з узнікшага становішча? Урад на працягу дзесяцігоддзяў спрабуе вырашыць праблему шляхам прыняцця разнастайных праграм. За 80-я гады іх было прынята некалькі, у тым ліку і шырока разрэкламаваная Харчовая праграма (1982 года). Але ўсе яны без выключэння праваліліся.

Уяўляецца, што вырашыць жыццёва важныя праблемы краіны, уключаючы ў першую чаргу праблемы ўзроўню жыцця, можна толькі пры ўмове правядзення хуткай і паслядоўнай прыватызацыі "сацыялістычнай агульнанароднай уласнасці", якая даказала сваю неэфектыўнасць. Толькі гэта, на думку многіх буйнейшых эканамістаў у СССР і за яго межамі, можа затрымаць тэндэнцыю развалу эканомікі і апускання краіны ў бездань эканамічнага крызісу.

Вядома, прыватызацыя абавязкова прывядзе да дыферэнцыяцыі грамадства па ўзроўню даходаў, маёмаснаму становішчу і г. д. З'явяцца і беспрацоўныя. Але, па-першае, і маёмасная няроўнасць, і беспрацоўе ў краіне заўсёды існавалі, праўда, у скрытай форме. А, па-другое, іншага шляху проста няма.

**Анатолій ДЗЯРАБІН,**
**доктар эканамічных навук.**

**Калектыў рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" выказвае глыбокае спачуванне адказнаму сакратару рэдакцыі ТУРАЙКЕВІЧУ Яўгену Іванавічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**

### *ЛЁС ЧАЛАВЕКА, ЯКІ ЖЫЎ "ПАД СОНЦАМ СТАЛІНСКАЙ КАНСТЫТУЦЫІ"*

# СТЫНЕ СЭРЦА АД ЯГО ЎСПАМІНАЎ,

## або РАСКАЗ ПРА НАШАГА ЗЕМЛЯКА, ЯКІ 10 ГОД ПРАВЁЎ У ЛАГЕРАХ

Загорск вядомы сваім архітэктурным ансамблем — Троіца-Сергіевай лаўрай, гэта, бадай, самае папулярнае ў турыстаў гістарычнае месца Падмаскоўя. Але я прыехаў у Загорск не для таго, каб палюбавацца славутасцямі рускай культуры. Тут, за некалькі крокаў ад чыгуначнага вакзала, на Касым завулку, жыве мой зямляк Пётр Апанасевіч. Пётр Паўлавіч даўно разьмяняў сёмы дзесятак, але памяць яго добра захавала тое, што давялося перажыць, чаго нельга забыць.

— Мае бацькі жылі ў Бабаевічах (цяпер Клецкі раён Мінскай вобласці. — **У. С.**), — расказвае Апанасевіч. — У сям'і, акрамя мяне, яшчэ два браты і дзве сястры. Вучыцца не было за што, таму скончыў некалькі класаў вясковай школы. Вось і ўся мая адукацыя. Працавалі на сваёй гаспадарцы. Мы мелі 3 гектары зямлі, каня, дзве каровы...

Пятра Апанасевіча ў 1932 годзе прызвалі ў польскую армію. Служыў каля Варшавы. Праз год прыйшоў у водпуск. Сустрэўся з сябрамі-падпольшчыкамі Васілём Нямерам, Ігнатам Новікам, Паўлам Сазановічам...

Аб тым, што было далей, сведчаць дакументы Навагрудскага ўпраўлення паліцыі за першую палавіну 1934 года: "Стралок узвода веласіпедыстаў 3-га манеўранага батальёна ў Рэмбертове Апанасевіч Пётр, які знаходзіўся ў водпуску ў сваіх бацькоў у вёсцы Бабаевічы Клецкай гміны Нясвіжскага павета, 10 красавіка 1934 года ўцёк у СССР.

Апанасевіч Пётр вядомы быў паліцыі як спачуваючы Кампартыі Заходняй Беларусі (КПЗБ)".

Так, у ваеннай форме жаўнера польскай арміі, адправіўся за мяжу. Праводзіў яго да граніцы вядомы падпольшчык, член КПЗБ Васіль Нямера і перадаў Пятра савецкім пагранічнікам.

Два тыдні перабежчык прасядзеў у Цімкавічах. Затым пад аховай яго адправілі ў мінскую турму. Зноў следчыя, допыты, пратаколы...

— Але хутка мне адчынілі дзверы турмы, — успамінае Пётр Паўлавіч. — Сказалі, што я свабодная птушка і магу ісці на ўсе чатыры бакі. Чамусьці паехаў у Варонеж, дзе прыняў савецкае грамадзянства.

З дакументаў Упраўлення КДБ СССР па Варонежскай вобласці: "Апанасевіч Пётр Паўлавіч, 1911 г. нараджэння... прыбыў у СССР з Заходняй Беларусі ў 1934 г. Працаваў у саўгасе імя Другой пяцігодкі Варонежскай вобласці, потым аўтаслесарам электрастанцыі ВАДРЭС, а з 29 чэрвеня 1937 года і да дня арышту —26 лютага 1938 года — слесарам на заводзе імя Камінтэрна ў горадзе Варонежы".

— Непасрэдна з работы мяне забраў "чорны варанок", — тлумачыць Пётр Паўлавіч. — Прывезлі энкавэдэшнікі на "вакзал" (так называлася прыёмнае аддзяленне турмы. — **У. С.**). Там усюды чысціня, толькі паветра страшна цяжкае і кіслае. Спачатку не лаялі і не білі. Толькі кароткія і дакладныя каманды:

— Пінжак, штаны знімай, бялізну...

Усё праверылі з веданнем справы. Адрэзалі ўсе гузікі, да апошняга...

Допыты цягнуліся нядоўга. Следчыя кожны раз паўтаралі адно і тое ж пытанне:

— Быў за граніцай?

— Ага. Там я нарадзіўся і вырас...

— Хто ўваходзіць у антысавецкую групу?

— Ніхто...

— Маўчаць, контра! — уз'юшыўся следчы, не дазволіўшы дагаварыць.

— Стаяць другія суткі без сну і пры пастаянных здзеках катаў не было ніякіх сіл, — расказвае П. Апанасевіч. — Я адмаўляў існаванне антысавецкай групы. Следчы гаварыў, што маўчаць няма сэнсу, бо ўсе члены групы да ўсяго прызналіся. І з гэтым усё вырашана. Маўляў, следчыя жадаюць мне толькі дабра, бо чыстасардэчнае прызнанне палегчыць пакаранне. Варта падпісаць пратакол, і мяне адразу адпусцяць у камеру адаспацца.

Следчы звычайна раней пісаў пратакол з прызнаннямі арыштаванага.

— Я такой паперы не падпішу, — супраціўляўся П. Апанасевіч.

— А я цябе — да пацукоў, падлюга, тады ўсё падпішаш! — цадзіў праз пракураныя жо[illegible] зубы энкавэдэшнік. — Тады [illegible]разумееш...

Пётр маўчаў. Маўчаў таму, што, па-першае, гаварыць не было сіл, па-другое, усялякае яго пярэчанне толькі ўзмацн[illegible] раз'юшанасць следчага. Ён не арыентаваўся ў часе, сл[illegible] следчага даносіліся як бы здалёк. Нарэшце, ці то як траціў прытомнасць, ці то засынаў, ногі падкасіліся. Пётр прыхіліўся да сцяны спіной і пачаў спаўзаць уніз...

З пісьма пракуратуры Варонежскай вобласці ад 7 ліпеня 1989 года: "Апанасевіч П. П. быў пазбаўлены свабоды тэрмінам на 10 год у выпраўленча-працоўныя лагеры па пастанове Асобай нарады пры НКУС СССР ад 19 красавіка 1938 года за антысавецкую агітацыю".

З варонежскай турмы П. Апанасевіча адправілі ў Варкуту.

Калі зайшла размова пра жыццё ў Пячорскім лагеры НКУС, то Пётр Паўлавіч змоўк. І толькі тады я заўважыў, як з яго выцвілых вачэй цяклі слёзы... Як ён ні стараўся не паказаць сваёй узрушанасці, няпрошаныя слязінкі расцякаліся па маршчыністым твары.

— Я і цяпер часта ў снах бачу свае лагеры, ахову, нібы жыву тым жыццём. Праз столькі год у вушах чуваць удары па рэйцы. Гэта азначала—пад'ём. На снеданне—"сечка" (рэдкая каша з ячных круп на вадзе). Новыя ўдары ў рэйку сведчылі пра час разводу. Ля вахты пераклічка. Усіх размяркоўвалі па чатыры. Брыгадзір запісваў прозвішчы на кавалку фанеры. Адчыняліся вароты. "Выходзь!" — брыгада ішла за вахту, а там ужо стаяў канваір з вінтоўкай. Кожны дзень чуліся стандартныя словы: "Партыя, папярэджваю: крок улева, крок управа — страляю... Пайшлі!"

І так не тыдзень, не месяц, а цэлых 10 гадоў. Цяжка пералічыць, колькі лагераў змяніў Пётр Паўлавіч за гэты час. Пілаваў і вазіў лес, капаў зямлю, будаваў дарогі. Увесь час у голадзе і на холадзе, у нялюдскіх умовах. Нават і цяпер не можа адказаць на пытанне, як выжыў, бо штодня людзі гінулі як мухі...

— На адным месцы доўга не затрымліваўся, — тлумачыць субяседнік. — Тры-чатыры месяцы, а потым гналі па бездарожжы за 200-300 кіламетраў, а там зноў абжываліся. Тры-чатыры пары лапцей зношвалі за дарогу. І нікому слова не скажаш, бо ні ад кога не было падтрымкі. Можа таму я і цяпер цураюся людзей... Пытаецеся пра голад... Ён не пакідаў мяне ўвесь час. Добры гаспадар лепш скаціну корміць, чым мелі мы. Напрыклад, калі перавялі ва Ухту, то ў сталоўцы былі спецыяльныя карыты для хамсы. Насыпалі яе з бочак, як жывёле. Але ці шмат яе, салёнай, з'ясі. Дзе потым шукаць вады?.. Я, чэснае слова, тысячу разоў успамінаў маму, Ганну Кірылаўну, і тую бульбу, што яна некалі варыла для свіней...

Хто быў у лагерах? На гэтае пытанне адным словам не адказаш. Ваенныя трыбуналы, асобыя нарады, Вярхоўныя суды "пастаўлялі" вучоных і простых рабочых, сялян і інжынераў, перабежчыкаў, як я, з Заходняй Беларусі і артыстаў, ваенных і пісьменнікаў. Тысячы іх засталіся ў безыменных магілах Ухтпячорлага. Сэрца па іх, нявінных ахвярах ГУЛАГа, шчыміць да гэтага часу.

З пісьма пракуратуры Комі АССР ад 17 ліпеня 1989 года: "Пракуратура Комі АССР паведамляе, што па архіўных дакументах Апанасевіч Пётр Паўлавіч... асуджаны паўторна судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда Комі АССР па арт.арт. 16—169 ч.2 і 16—109 КК РСФСР на 10 год пазбаўлення волі. Пачатак тэрміну з 16 верасня 1942 года."

— Няпраўда ўсё гэта, — тлумачыць Пётр Паўлавіч. — Ніякага злачынства не было, як не было і суда. Праўда вось у чым. Выклікалі неяк у кабінет лагернага начальства і сказалі, што за злоўжыванне дабаўляюць тэрмін. Калі я стаў удакладняць, то мне сказалі, што на ўчастку па здабычы нафты, дзе я працаваў, выяўлены лішкі, якія мы меркавалі пераправіць сусветнай буржуазіі. Якія лішкі, колькі нафты? Я ні за што не адказваў, бо лічыўся простым масленшчыкам. Цяпер, праз столькі часу, успамінаецца, што начальнікам участка быў нехта Пудаў. Потым яго некуды перавялі. Яго пасаду ніхто не займаў. А калі ў лагеры пачалі вышукваць "ворагаў", то мне ўсё гэта "прышылі" да справы.

Зноў этапы. На гэты раз трапіў у Пячорлаг. Вызваленне прыйшло толькі 9 ліпеня 1948 года. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 7 ліпеня 1945 года тэрмін быў зменшаны на 3 гады, 7 месяцаў і 5 дзён.

— Калі прыехаў у родныя Бабаевічы, то маці мяне не пазнала, — гаворыць Пётр Паўлавіч. — Пісем з лагера я не пісаў і нічога не ведаў пра лёс родных. Маці адпіхвала мяне і казала: "Гэта не мой сын. Яго няма. А калі жывы, то ён малады і прыгожы..." Мне тады было ўсяго 37 год, а маці спачатку палічыла за старога.

З 1955 года П. Апанасевіч жыве ў Загорску. Працаваў слесарам-наладчыкам, а з 1958 года — электраманцёрам на трыкатажнай фабрыцы. Калі прыйшоў час ісці на пенсію, то ў аддзеле кадраў запатрабавалі дакументы пра стаж работы да 1948 года. Тады Пётр Паўлавіч зноў "пайшоў" па дарогах свайго лёсу. Напісаў у Варонеж і атрымаў такі адказ на запытанне:

"Даведка аб рэабілітацыі. Выдана ў тым, што пастанова Асобай нарады НКУС СССР ад 19 красавіка 1938 года ў адносінах Апанасевіча Пятра Паўлавіча, 1911 года нараджэння, рашэннем прэзідыума Варонежскага абласнога суда ад 14 чэрвеня 1971 года адменена і справа вытворчасцю спынена з-за адсутнасці саставу злачынства.

Па гэтай справе Апанасевіч П. П. лічыцца рэабілітаваным".

Потым пенсіянер шмат разоў звяртаўся ў Вярхоўны суд і Пракуратуру Комі АССР аб пераглядзе справы па другой судзімасці, але так і не атрымаў канкрэтнага адказу. На маё запытанне адказаў намеснік пракурора Комі АССР старшы саветнік юстыцыі В. Бяляеў: "...крымінальная справа па абвінавачванню Апанасевіча П. П., асуджанаг[illegible] Вярхоўным судом Комі АС[illegible] верасня 1942 г. ...не знойдзена. Вярхоўны суд Комі АССР паведаміў, што ён не мае даных пра разгляд гэтай справы. Не знойдзена справа і ў іншых архівах".

Не абрадава[illegible] і адказ з Вярхоўнага суда [illegible] АССР: "Крымінальная спр[illegible]а ў адносінах Апанасевіча Пятра Паўлавіча не захавалася. Таму вырашыць пытанне аб пераглядзе справы не маем магчымасці. Старшыня В. С. Хінкін".

А ці была наогул справа на Пятра Паўлавіча? Вось што паведаміла Ухцінскае архіўнае аддзяленне МУС Комі АССР: "...Архіўнаасабовая справа Апанасевіча па другой судзімасці знішчана ў 1952 годзе, г. зн. праз пяць год пасля яго вызвалення".

Цяпер, здаецца, кола замкнулася. Рэабілітаваць не могуць, бо адсутнічае справа. А яна знішчана пасля сканчэння тэрміну захавання.

— Не варта больш турбавацца за мяне, — казаў Пётр Паўлавіч пры апошняй сустрэчы. — Мне са студзеня пайшоў васьмідзесяты год. Дажыву свой век і без рэабілітацыі... Каму цяпер, праз паўстагоддзя, буду даказваць, што я не злачынец. Злачынцаў бачыў і адчуваў іх уладу над такімі, як быў сам, вязнямі сталінскага рэжыму. Толькі шкада, вельмі шкада, што на маладосць майго жыцця выпала такое цяжкае выпрабаванне...

...Ужо запаліліся агні на вуліцах горада, калі я пакідаў Загорск. Апошнія словы Пятра Паўлавіча вельмі запалі ў душу і ўсю дарогу не давалі спакою ў электрычцы.

Так, сапраўды П. Апанасевічу выпаў незвычайна суровы лёс. Але ён выстаяў, выжыў, каб расказаць сучаснікам пра ўбачанае і выпакутаванае. А колькі людзей яго пакалення прыняла зямля ў розных Курапатах, так густа рассеяных па нашай гаротнай зямлі...

**Уладзімір САЗАНОВІЧ.**

---

### ЯПОНСКІЯ ВАЕННАПАЛОННЫЯ Ў СІБІРЫ

# ЗАСТАВАЛІСЯ ЛЮДЗЬМІ

Згодна з архіўнымі дакументамі, у перыяд з 9 жніўня па канец кастрычніка 1945 года савецкімі войскамі было ўзята ў палон і ўлічана як ваеннапалонныя 609 448 салдат і афіцэраў японскай арміі. Акрамя таго, было інтэрніравана 6 658 асоб цывільнага японскага насельніцтва. Такім чынам, у савецкім палоне аказалася 616 106 японцаў.

Дакументальныя матэрыялы сведчаць, што адносіны японцаў да палону ў СССР былі зусім іншымі, чым, скажам, у нямецкіх, італьянскіх і іншых ваеннапалонных. Пераважная большасць японскіх салдат і афіцэраў не лічыла сябе "ваеннапалоннымі" ў прамым сэнсе гэтага слова. Усе яны прызнавалі сябе толькі ваеннаслужачымі, якія раззброіліся і здаліся ў палон па загаду свайго імператара. Пры гэтым многія японцы заяўлялі, што яны не жадаюць, каб іх сваякі атрымлівалі ад іх пісьмы як ад ваеннапалонных. Калі ў другой палавіне 1946 года ім была дазволена перапіска з роднымі, значная частка японцаў катэгарычна адмовілася выкарыстоўваць стандартныя паштоўкі міжнароднага Чырвонага Крыжа, на якіх стаяла адзнака "ваеннапалонны".

Мяркуючы па архіўных дакументах, большасць японскіх ваеннапалонных, у першую чаргу афіцэраў, адкрыта выказвалі сваю любоў да імператара, строга захоўвалі нацыянальныя, дзяржаўныя і нават некаторыя ваенныя святы (напрыклад, гадавіну стварэння ўзброеных сіл Японіі). Яны верылі, што Японія адродзіцца і стане працвітаючай дзяржавай. Пра гэта, у прыватнасці, заявілі пры анкетным апытанні, праведзеным у пачатку 1946 года, звыш 90 працэнтаў з больш чым трох тысяч былых японскіх салдат і афіцэраў 123-й японскай пяхотнай дывізіі.

З пачатку палону і да канца 1946 года ў многіх японскіх ваеннапалонных захоўваліся насцярожаныя адносіны да адміністрацыі лагераў, хаця рэжым утрымання ў іх не быў занадта строгім. Ужо з сярэдзіны 1946 года многія ваеннапалонныя атрымалі дазвол на свабодныя зносіны з мясцовым грамадзянскім насельніцтвам, таму што прапускныя пункты ў лагерах пачалі насіць практычна сімвалічны характар.

Варта разам з тым адзначыць, што паміж японскімі ваеннапалоннымі і савецкімі людзьмі — пераважна дзесятнікамі — здараліся і канфліктныя сітуацыі. Часта яны былі звязаны з нізкім узроўнем арганізацыі працы ваеннапалонных, незабяспечанасцю іх якасным інструментам. Пры гэтым дысцыплінаваныя і арганізаваныя японцы выступалі за парадак на рабочым месцы, за лепшую арганізацыю працы.

Аднак, як правіла, паміж японскімі ваеннапалоннымі і савецкімі людзьмі складваліся добразычлівыя адносіны. У значнай ступені гэта тлумачыцца тым, што спосаб жыцця японцаў і савецкіх людзей, што былі вакол іх, у многім быў падобны. Асабліва ж павялічылі цёплыя адносіны ў японскіх ваеннапалонных склаліся з персаналам медыка-санітарных падраздзяленняў лагераў і шпіталяў. У

(Заканчэнне на 4-й стар.).

*НАШЫ ЗА АКІЯНАМ*

# КААРДЫНАТЫ ДУШЫ Сяргея КАРНІЛОВІЧА

ДУША беларуса... Якая яна? Як расказаць пра яе? М. Багдановіч з болем пісаў:

**Народ, Беларускі**
**Народ!**
**Ты — цёмны, сляпы,**
**быццам крот.**
**Табою ўсягды**
**пагарджалі,**
**Цябе не пушчалі з ярма**
**І душу тваю абакралі, —**
**У ёй нават мовы няма.**

Так, беларускую душу зваявалі насільствам, заціснулі бяспраўем, нішчылі ў турмах, паміралa яна ў Курапатах, парку Чэлюскінцаў, у Сібіры. З яе святынь рабілі руіны, яе зацярушвалі чарнобыльскім пылам. Здаралася, пакідала яна абжытыя мясціны і падавалася ў чужыя краі.

Душа беларуса — гэта Ефрасіння Полацкая і Кірыла Тураўскі, Скарына і Багдановіч, Янка Купала і Якуб Колас, Алаіза Пашкевіч і Юрый Тарыч, Браніслаў Тарашкевіч і Наталля Арсеньева. І таму яна не памерла, вытрымала, дзякуючы сваёй працавітасці, мужнасці, розуму, веры і любові да сваёй Бацькаўшчыны, да свайго народа. Вось аб адной такой душы я і хацела б вам расказаць. Ён — не кіназорка, не палітычны дзеяч, не вядомы літаратар. Ён — Чалавек з вялікай літары, з прыгожай душой і добразычлівым сэрцам. Сяргей Карніловіч жыве ў Полацку, які паўстаў непадалёку ад вялікіх амерыканскіх азёраў. Што гэта? Міраж, цуд, мара? Не — сапраўднасць. І заснавалі яго нашы суайчыннікі — беларусы. Гэта ў ім 1 верасня 1990 года адбылася XIX сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, куды ўпершыню прыехалі суродзічы з Бацькаўшчыны. Гэта адсюль, з Полацка, ідзе дапамога ахвярам чарнобыльскай трагедыі. Гэта тут моляцца за беларускі народ, тут шануюць матчыну мову, песні, танцы, святы — сваю спадчыну.

Але ж за ўсімі справамі перш за ўсё стаяць людзі. Людзі, якія далі жыццё гэтаму кавалку цяпер ужо беларускай зямлі.

"Калі б мы маглі выбіраць святога, так гэта быў бы Сяргей Карніловіч", — мяркуе Ева Яраховіч, якая ведае яго больш чым 40 гадоў.

Амерыканскія беларусы жартуюць: Сяргей ажаніўся з Полацакам...

— Ці гэта так? — пытаюся я яго.

— Так, — кажа. — Я заўсёды ў жыцці пазніўся. Дзяўчаты замуж не ўзялі, таму я і ажаніўся з Полацакам. А мець дзве жонкі — бяда!

Калі знаёмішся з Сяргеем, першае, на што звяртаеш увагу, — цёплая і добразычлівая ўсмешка, ад якой на сэрцы робіцца лагодна і спакойна. І — вочы! Вельмі прыгожыя, блакітныя, у якіх адлюстравалася ўся веліч яго сапраўды светлай душы!

Найбольшае ўражанне робіць Сяргеева цярплівасць і чуласць, справядлівасць і станоўчасць, вялікая далікатнасць да людзей, з якімі сустракаецца. Увесь свой час гэты чалавек аддае беларускасці. Праз усё жыццё нясе ён любоў да бацькоўскага краю, яго вытокаў, каранёў, да таго месца, дзе нарадзіўся.

На чужыне Сяргей апынуўся падчас вайны. Было яму тады толькі 13 гадоў.

Адкуль захаваў гэты беларус такую любоў і пашану да роднай спадчыны? Адкуль у яго такая моц і любасць да беларускай мовы, гісторыі і культуры роднага народа? У кожнага чалавека ёсць маці. З матчынай мовай, з яе думкамі і светапоглядам дзіця ўспрымае навакольны свет.

Сяргей памятае маці заўжды клапатлівай, шчырай, ласкавай і вельмі дабрадзейнай. Гэта яна пасеяла ў душы сына пашану да ўсяго беларускага. Гэта яна надзяліла яго сардэчнасцю і непахіснай верай у нашу будучыню.

Памятае Сяргей той дзень, калі маці як бы дала яму жыццё яшчэ раз...

...Ён з бацькам і суседам паехаў у Докшыцы, гарадок, побач з якім знаходзіліся Таргуны, вёска, дзе нарадзіўся Сяргей. Наказала ім цётка забраць рэчы, бо ў час акупацыі немцы палілі вёскі, а ў начы партызаны прыходзілі рабаваць.

Злажылі яны сякое-такое адзенне на воз, і раптам з'явіліся партызаны. Бацька застаўся за хатай, а Сяргея з суседам прымусілі пайсці за возам. Праз нейкі час на кані падскочыў камандзір атрада.

— Адкуль рэчы? — пытаецца.

— Гэта маёй цёткі, — адказвае Сяргей.

— У начы ўсё паляць, дык мы і забралі, каб не прапала дарма вопратка, — растлумачыў сусед.

І павялі далей. За вёскай Таргуны кінулася да фурманкі маці Сяргея. Як птушка, ратавала яна жыццё свайму дзіцяц[illegible]

— Я [illegible]ду з возам! Вазьміце мяне, а яго адпусціце! Ён жа малы! Вазьміце маё жыццё, а яго пакіньце!

Доўга маліла і прасіла матуля камандзіра. Але ж дарэмна. Ён груба адштурхнуў жанчыну. Ды можа галашэнні [illegible] дапамаглі, ці Бог не хацеў ахвяры [illegible]апчуковага жыцця, бо праз нейкі час яго вярнулі дамоў. А суседа забралі.

Пазней Сяргей дазнаўся, што таго чалавека забілі. Не ведае і па сённяшні дзень Сяргей Карніловіч, што сталася б з ім, калі б не маці...

Як трапіў Сяргей Карніловіч у ЗША?

Калі немцы адступалі на Захад, шмат людзей яны вывозілі ў Нямеччыну. Апынуўся сярод іх і Сяргей. Быў у дзіцячым доме, затым у гімназіі імя Я. Купалы. Скончылася вайна. Не вярнуўся хлопец дадому... Ведаў, што там застаўся сталінскі рэжым, што нельга было і думаць, і дыхаць вольна. Пазней Карніловіч пераканаецца ў правільнасці свайго выбару. Калі паглядзець на жыццё сяброў, якія пасля вайны ўсё ж падаліся на Радзіму, то многія апынуліся за кратамі. А тут, на чужыне, ён меў мажлівасць размаўляць на сваёй мове, святкаваць беларускія святы, мог рабіць, што хацела душа. Праўда, калі прыехаў у Амерыку, дык два тыдні не мог знайсці працу. Вельмі шкадаваў, што не паехаў лепш у Канаду альбо Аўстралію. Пасля Сяргей упэўніўся, што добра зрабіў, застаўшыся ў Злучаных Штатах, бо ні ў адной краіне не адчуваў бы сябе такім шчаслівым і такім патрэбным людзям.

— Спачатку мы не мелі свайго прытулку, — прыгадвае Сяргей, — хадзілі на нямецкія ці італьянскія вяселлі. Але ж, прыгледзеўшыся, як іншыя будуюць сваё асяроддзе, прыйшлі і мы да пераканання, што нам неабходна мець нешта сваё, беларускае. Каб зберагчы нашу мову, традыцыі, песні, танцы, нашу культуру, нашу душу. Захаваць тое, што дае сілы і мэту жыцця, вылучае з асяроддзя і выклікае да сябе цікавасць і павагу іншых народаў і нацыянальнасцей. Як вядома, раней пра беларусаў не ведалі і лічылі іх расейцамі. Мы не маглі з гэтым пагадзіцца. Пачалі змагацца. Выдавалі свае часопісы, газеты. Зачалі фарміраваць свае беларускія арганізацыі, адкрывалі школы. Пабудавалі сваю беларускую царкву Жыровіцкае Божае Маці, у якой заўжды літургія ідзе на беларускай мове і ў якой мы кожную нядзелю молімся за беларускі народ.



...Аднойчы, едучы па прыватных справах, Сяргей звярнуў увагу на прыгожыя мясціны, як[illegible]гадалі яму краявіды Бацькаўшчы[illegible] Стаяла на тым месцы конегадоўчая ферма. І вырашылі беларусы адкупіць гэту зямлю. Сабралі грамадой частку грошай, частку пазычылі ў банку, а што не хапіла, даклаў Сяргей. Кастусь Калоша адкупіў дом, і пераехалі яны з К[illegible]ловічам на сваю зямлю. Запрапана[illegible] Сяргей назваць гэтае месца "Полацак". Так і вырашылі.

Калі я трапіла першы раз у Полацак і пабачыла фундамент, нават не магла сабе ўявіць, што праз год на гэтай раскапанай зямлі вырасце такі сучасны белы прыгажун, у зале якога беларусы ўсяго свету змаглі падаць адзін аднаму рукі...

Па розных прычынах і ў розныя часы выехалі беларусы з Бацькаўшчыны. Але ж не згубілі ў сваіх сэрцах любоў і пашану да яе. Хоць і вельмі прыгожая амерыканская зямля, і дастатак ёсць, і свабода, але ж, як сказаў вялікі Купала: "...не пазбыў усіх я бед — мне сняцца сны аб Беларусі". Так, не магла сціхнуць у Сяргея туга па Радзіме. Сніўся яму родны кут.

Аднойчы, ужо ў час "адлігі", напісаў ён ліст да цёткі. І хоць не адчуваў за сабой ніякай віны, але ж змяніў сваё імя, распытваючы, як маецца цётка, маці, бацька, сёстры. Цётка, жанчына разумная, здагадалася і аднесла пісьмо да Сяргеевай маці. Але ж Сяргей прасіў не пісаць, бо жыве за мяжой. Цяжка тады было ў краіне. Хто меў сваякоў у капіталістычнай дзяржаве, лічыўся амаль здраднікам. Дзякуй Богу, заглянула сонца і ў наша ваконца: у Савецкім Саюзе адбыліся змены. І змог Сяргей паехаць на Бацькаўшчыну.

Гэта было першае спатканне з бацькоўскім кутком. Што думаў ён у гэты час? Як успрыняў Бацькаўшчыну? Якія пачуцці апанавалі яго?

А пачуцці былі розныя: і радасць, і смутак... Радасць, што ходзіць па зямлі сваіх бацькоў, якая дала яму жыццё, дзе прайшло маленства і якая снілася яму амаль кожны дзень...

Сумна, што не пачуў беларускай мовы. Куды б ні пайшоў, усюды гаварылі па-расейску. Сумна, што сустрэў у гатэлі старэнькую бабулю-эмігрантку. Яна сядзела і ўвесь час плакала: старую не пускалі на зямлю, дзе нарадзілася, у Вілейку. Сумна ад таго, што ў параўнанні з іншымі краінамі, у нашай турызм быў вельмі прымітыўны. Але ж гэта была ягоная Бацькаўшчына, якую ён любіў і шкадаваў, як хворае дзіця.

...Пахадзіўшы крыху па Мінску, вырашыў Сяргей адпачыць. Раптам — стук у дзверы, прыходзіць чалавек з Глыбокага і кажа, што яго бацькі прыехалі на сустрэчу. 25 гадоў мінула ж з тае часіны — пэўна, што нікога не пазнаеш. Пастарэлі матуля, тата. Змаглі яны толькі суткі пабыць разам з сынам. А Сяргею хацелася пабачыць сваю вёску. У бюро абслугі Інтурыста яму паведамілі, што забаронена выязджаць са сталіцы. Так здарылася, што на яго шляху сустрэлася добрая душа беларусіна, які і дапамог спаткацца з зямлёй свайго маленства. Пазнаёміўся Сяргей калісьці ў Манрэалі з Лёнем Яўменавым. Пасябравалі. "Як, — кажа, — не наведаць Радзіму? Гэта тое ж самае, што ты і наогул не быў на Беларусі." І ўсю адказнасць узяў на сябе. Зранку прыйшла машына, і на 24 гадзіны Сяргей паехаў дамоў.

Праўда, там нікога не пазнаў, але ж калі называлі імя, то кагось успамінаў. Дома было спакойна, ціха, добра.

— Сабралася чалавек 40, — згадвае Сяргей. — Зрабілі маленькую гасціну. Некаторыя людзі выказалі задавальненне тым, што я прыехаў. Пазней і я, выпіўшы, як у нас кажуць, "балгарскага квасу", узяў слова: "Захаваў я сваю мову, культуру, ніколі не парываў з Беларуссю. Жыве ў мяне вера ў нашу Бацькаўшчыну, у тое, што Беларусь назаўсёды здабудзе сабе дзяржаўнасць, а яе народ стане паўнаўладным гаспадаром на роднай зямлі і будзе сам ісці ўласным шляхам. Спадзяюся, што атрымаецца менавіта так."

"Я вельмі шчаслівы, што маю дачыненне да Сяргея Карніловіча, — скажа пра яго пляменнік Слава. — Ён перавярнуў усе мае думкі і светапогляд, нават жыццё. З яго дапамогай я адчуў сябе сапраўдным беларусам!"

"Сяргей вельмі ахвярны чалавек, цудоўны арганізатар, увесь свой час ён прысвячае нашай калоніі, як не грамадскі кіраўнік, — гаворыць ягоны сябар Кастусь Калоша. — Хоць кампанія, у якой ён працаваў, пераехала ў другі штат, але Сяргей не пайшоў далей на працу, а ўвесь свой час прысвяціў грамадскай дзейнасці".

Цікавіцца Сяргей беларускім друкам, чытае ўсе часопісы, якія выходзяць тут, і асабліва на Бацькаўшчыне. А колькі дапамогі атрымалі ад яго людзі! Хто грошы, хто вопратку. Амаль сто вялікіх пачак Сяргей і Іра Каляда адправілі на Беласточчыну. А колькі радасці прынёс Сяргей моладзі, якая прыехала на з'езд. Усе яны атрымалі ад яго падарункі.

Акрамя таго, Сяргей цікавіцца гісторыяй, захапляецца творамі Караткевіча і Багдановіча, паважае класічную музыку. Ёсць у Сяргея мара: збудаваць на Полацаку царкву і адчыніць дом для састарэлых.

...І пакуль б'ецца сэрца Сяргея Карніловіча і яго шматлікіх сяброў — жыве Беларусь!

**Наталля ВЯРБОЎСКАЯ.**

г. Кліўленд, ЗША.

**Фота А. КЛЕШЧУКА.**

# ЗАСТАВАЛІСЯ ЛЮДЗЬМІ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

архівах захавалася мноства дакументаў, што сведчаць пра гэта. Вось адзін з іх.

Генерал Атодза Ямада, які камандаваў Квантунскай арміяй, утрымліваўся ў лагеры № 48 (вёска Чэрнцы Іванаўскай вобласці). У канцы 1955 года ён сур'ёзна захварэў. Медыцынскую дапамогу яму аказвалі ўрач — капітан медыцынскай службы Меліцінская і санітарка Анісімава. І калі генерал Ямада быў датэрмінова вызвалены ад пакарання, яны суправаджалі яго ў дарозе аж да Находкі. Перад адпраўленнем у Японію генерал накіраваў пісьмо на імя маршала Варашылава з падзякай усім медыцынскім работнікам.

Можна прывесці і мноства іншых прыкладаў, калі медыцынскія работнікі абаранялі інтарэсы японскіх ваеннапалонных. У прыватнасці, 11 чэрвеня 1946 года сяржант Цунэюкі Сакамота, працуючы на шахце "Паўднёвая" Канскага рудаўпраўлення Краснаярскага краю, атрымаў смяртэльную траўму, імкнучыся папярэдзіць наезд гружанай ваганеткі з вугалем на конаважатага і каня. Адміністрацыя шахты паспрабавала перакласці ўсю віну за здарэнне на самога нябожчыка Сакамота. Аднак урач Дзянісава і фельчар Самец склалі свой уласны акт адносна акалічнасцей смерці Сакамота, адзначыўшы, што ён ахвяраваў сваім жыццём дзеля выратавання жыцця другога чалавека. Гэты акт і лёг у аснову вывадаў з выпадку смерці.

Неадназначна складвалася жыццё ў Расіі японскіх ваеннапалонных. Што і гаварыць, палон ёсць палон. Але ў чарадзе лагерных дзён, паводле прызнання саміх японцаў, знаходзілася месца праяўленню і глыбокіх чалавечых пачуццяў — спачування, узаемавыручкі, сяброўскай падтрымкі. Аб гэтым таксама ўсім нам не варта забываць.

**Уладзімір ГАЛІЦКІ.**

